# ЗВЯЗДА

16 кастрычніка 1996 г. серада, № 249 (23052)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### У КІШЭНЯХ ПРАЦОЎНЫХ ПА-РАНЕЙШАМУ ГУЛЯЕ ВЕЦЕР?

**Праблема запазычанасці па заработнай плаце працоўным беларускіх прамысловых прадпрыемстваў зноў паўстала з асаблівай вастрынёй. Чаму менавіта зараз?**

Бо ў адпаведнасці з прэзідэнцкім Указам № 344 ад 30 жніўня 1996 года «Аб своечасовай выплаце заработнай платы, пенсій, стыпендый і дапамог» быў устаноўлены тэрмін ліквідацыі запазычанасці па заробку да 20 кастрычніка бягучага года. Таму праз тыдзень астранамічныя лічбы доўгу (на канец жніўня яны складалі 963, а ў прамысловасці — больш за 300 мільярдаў рублёў) павінны быць зведзены да нулявой адзнакі.

Як жа складваюцца справы рэальна? Сапраўды, выплаты адбываюцца — за жнівень разлічылася большасць прамысловых прадпрыемстваў (тыя ж Мінскі аўтамабільны завод, Мінскі завод шасцерняў). Ідзе выплата і вераснёўскага заробку, але пакуль вельмі марудна. Справа ў тым, што графік разліку зараз парушаны. Так, калі раней, яшчэ некалькі гадоў таму ў гэты час выдавалі менавіта грошы за верасень, то зараз разлічыліся толькі за жнівень. Адпаведна, тэрміны наступнай выдачы заробку адсоўваюцца на пэўны час. Рэальна адбываецца затрымка на месяц, а то і болей. Спробы вырашаць праблему за кошт натураплаты, адкрыцця ўласных гандлёвых кропак, якія працуюць без нацэнак, пакуль не завяршыліся паспяхова.

Меры, вядома, прымаюцца. Як стала вядома, на прадпрыемствах зараз адбываецца працэс накаплення сродкаў для таго, каб вырашыць пастаўленую задачу. Прадпрыемствам актыўна выдзяляюцца і крэдытныя сродкі.

На фоне гэтых станоўчых момантаў даволі сумна выглядае сітуацыя на мінскім прадпрыемстве «Літмаш» (пра якое, дарэчы, мы ўжо не раз пісалі), дзе працоўныя атрымалі нядаўна толькі заробак за ліпень. Да таго ж сродкаў на наступную зарплату пакуль няма.

Такім чынам, рашучыя меры, якія прымаюцца зараз, павінны, нарэшце, паспрыяць атрыманню працоўнымі заробленых (гэта слова нават трэба падкрэсліць!) грошай. Шкада толькі, што гэтая акцыя ўсё больш нагадвае выкананне пяцігадовага плана ў мінулым, якое таксама адбывалася ў апошні момант.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### «КРЫШТАЛЬ» ЗНОЎ БУДЗЕ НА СТАЛЕ

**14 кастрычніка пасля планавага штогадовага прафілактычнага рамонту, які доўжыўся месяц, прыступіў да работы мінскі завод «Крышталь».**

Як ужо паведамлялася ў «Звяздзе» раней, пасля закрыцця на рамонт лініі па разліву белай гарэлкі ў Мінску ледзь не стварыўся дэфіцыт гэтай прадукцыі, чуткі аб якім, да таго ж, увесь час падаграюцца «чакаемым» павышэннем кошту «гаручай вадкасці». Каб пазбегнуць ажыятажу і перабояў у гандлі гарэлкай, Міністэрствам гандлю было прынята рашэнне на тэрмін рамонту падключыць да забеспячэння «саракаградуснай» іншыя заводы краіны. Трэба меркаваць, зараз неабходнасці ў гэтым не будзе: як паведамілі рэдакцыі на заводзе «Крышталь», пасля выхаду на поўную магутнасць прадпрыемства, як і раней, зможа выпускаць да 10 тысяч дэкалітраў гарэлкі штодзень. Зрэшты, гэта не з'яўляецца для завода дасягненнем — была б толькі сыравіна, г. зн. спірт. Як зазначылі на прадпрыемстве, справа хутчэй у іншым: калі мы нарэшце перастанем столькі піць?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### «РУБЕЖ» СУПРАЦЬ РЭКЕЦІРАЎ

**Група рэкеціраў, што дзейнічала на беларуска-польскай граніцы, была затрымана ў ходзе буйнамаштабнай аперацыі «Рубеж-96».**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-цэнтры пагранвойскаў рэспублікі, затрыманне — гэта вынік сумесных дзеянняў атрада пагранкантролю «Брэст», супрацоўнікаў ваеннай контрразведкі, аддзела ўнутраных спраў і аператыўнай групы АМОНа. Цяпер 7 чалавек, якія займаліся вымаганнем у грамадзян, што перасякалі граніцу ў раёне пункта пропуску «Дамачова», знаходзяцца ў следчым ізалятары.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

### УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

Сучасны век немагчымы без разгалінаванай, шматграннай інфраструктуры зносінаў. Ці не найбольшы прыярытэт тут належыць сродкам электроннай сувязі, радыё, пошце. Іх праца мае дачыненне да ўсіх слаёў насельніцтва. Таму «Звязда» і праводзіць «прамую лінію» з міністрам сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Іванавічам Ганчарэнкам. Ён адкажа на ўсе вашы пытанні, паважаныя чытачы, звязаныя з падначаленай яму галіной. **Чакаем вашых званкоў 21 кастрычніка з 12 да 13 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне задавайце пытанні па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51 або пісьмова.***

### УВАГА!

***ПАВАЖАНЫЯ ПАДПІСЧЫКІ І ЧЫТАЧЫ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА»!***

***З 1 верасня 1996 года ў сілу ўступілі новыя Правілы дарожнага руху, якія маюць пэўныя адрозненні ад папярэдніх.***

Не сумняваемся, што сярод прыхільнікаў «Звязды» ёсць шмат аўтааматараў і вадзіцеляў са стажам, у якіх накапілася мноства пытанняў да супрацоўнікаў дзяржаўтаінспекцыі рэспублікі.

У вас ёсць магчымасць іх задаць. На тэлефонныя званкі і пісьмы чытачоў газеты праз супрацоўнікаў рэдакцыі ў бліжэйшы час адкажа начальнік ДАІ Рэспублікі Беларусь **палкоўнік міліцыі Алег Аляксеевіч ЧУДНІКАЎ**.

**Звоніце нам па тэлефонах:** (8-017) 268-29-68, 268-27-81, 268-29-19 з 9.00 да 18.00 (можна ўжо сёння), ці неадкладна задавайце пытанні пісьмова па адрасу: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда» з паметкай **«Для начальніка ДАІ РБ»**.

### СЯМЁН ШАРЭЦКІ ПАВІНШАВАЎ У ВІЦЕБСКУ УЛАДЗІМІРА КУЛАКОВА

**З кароткачасовым візітам у Віцебску пабываў кіраўнік беларускага парламента Сямён Шарэцкі.**

Ён уручыў Ганаровую грамату Прэзідыума Вярхоўнага Савета старшыні Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў Уладзіміру Кулакову, якому споўнілася 60 гадоў. Юбіляр удастоены ўзнагароды за вялікі ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны, удасканаленне работы органаў дзяржаўнага кіравання, а таксама за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Дарэчы, Уладзімір Кулакоў вось ужо 12 гадоў узначальвае аблсавет.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

*Край азёр і туманаў — Браслаўшчына.*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

### У ЗДАРОВЫМ ЦЕЛЕ — ЗДАРОВЫ ДУХ. А ЯКІ ДУХ У ЦЕЛЕ БЕЛАРУСА?

**З форуму спартыўнай грамадскасці нашай краіны**

Ад падобнага роду мерапрыемстваў мы нібыта ўжо і адвыклі. З'езды, актывы, не кажучы пра форумы — яны, як правіла, праводзіліся з нагоды нейкіх юбілеяў, дат, прымяркоўваліся для вырашэння самых што ні ёсць надзённых, кардынальных праблем і задач. Прычым, у недалёкім яшчэ мінулым кожнае з такіх мерапрыемстваў калі не перад пачаткам ці ў ходзе яго, дык літаральна назаўтра атрымлівала ярлык «эпахальнага», «гістарычнага», «выдатнай падзеі» і г. д. Але ці то час змяніўся, ці то мы ўсе сталі іншымі...

Форум спартыўнай грамадскасці Беларусі, які адбыўся ўчора ў Мінску, таксама меў на мэце прыцягнуць да сябе ўвагу літаральна ўсёй нашай рэспублікі. Сапраўды, што можа быць больш каштоўнага ў чалавека, калі не яго здароўе?! Умацаваць жа яго, загартаваць можа і павінен толькі адзін сродак — фізічная культура, спорт, турызм.

На якім яны ўзроўні ў нашай дзяржаве? Што і як трэба зрабіць, каб пазіцыі вялікага спорту Рэспублікі Беларусь у свеце не толькі захаваць, а і прымножыць? Ці ёсць у нашай краіны шанц стаць турыстычнай Меккай ці Венецыяй? Як «утрымаць» дома лепшых айчынных спартсменаў і трэнераў, якія апошнім часам сапраўдным патокам «паплылі» на Захад і Усход і з поспехам выступаюць за лепшыя замежныя клубы і каманды?..

Пытанні, пытанні, пытанні... Тон у пошуку адказаў на іх задаў на форуме міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рыжанкоў.

За апошнія гады фізічная культура сярод нашага насельніцтва страціла ранейшую павагу і папулярнасць. І не без падстаў. Ці да думак і памкненняў чалавеку, нават самаму аптымістычнаму і апантанаму, аб наведванні стадыёна, плавальнага басейна ці гульнявай пляцоўкі, калі куды больш даюць галаўнога болю іншага кшталту праблемы: як зарабіць грошы, каб апрануць і накарміць сям'ю, як не застацца заўтра наогул без работы... Апусценню спартыўных баз і аб'ектаў «паспрыялі» і іншыя фактары: неймаверны рост цэнаў на паслугі, адсутнасць належнай спартыўнай формы і інвентару, скарачэнне колькасці інструктараў-метадыстаў... І як вынік, імкліва пачало пагаршацца здароўе і самаадчуванне нашай нацыі, асабліва — падрастаючага і маладога пакалення.

Сёння:

43 працэнты дзяцей пакутуюць ад хранічных захворванняў;

у спартыўных секцыях, групах здароўя і агульнафізічнай падрыхтоўкі займаюцца ўсяго 8,8 працэнта школьнікаў, 13,5 працэнта навучэнцаў ПТВ, 18,9 — студэнтаў;

кожны чацвёрты прызыўнік не прайшоў медыцынскую камісію і не пайшоў на службу ў армію;

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

### ЮРЫЙ МАЛУМАЎ ПАПРАСІЎСЯ Ў АДСТАЎКУ

**Адгалоскі падзей, якія мелі месца ў Вярхоўным Савеце на мінулым тыдні, пэўным чынам паўплывалі і на ўчарашнюю работу парламента. Перш чым прыступіць да заканатворчай дзейнасці, дэпутаты азнаёміліся з некаторымі палітычнымі заявамі.**

Выступаючы ў «Розным», Аляксандр Капшай выказаў сваю думку наконт «пошуку кампрамісу» паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам. «Сабраўшы ўсімі праўдамі і няпраўдамі 110 подпісаў дэпутатаў, «памочнікі» (дэпутаты фракцыі «Згода». —**Аўт.**) пераканалі Прэзідэнта, што Вярхоўны Савет гатовы перагледзець сваё рашэнне і прызначыць рэферэндум на 7 лістапада. Тое, што здарылася ў гэтай зале на мінулым тыдні, у каторы раз паказала, што, толькі абапіраючыся на Канстытуцыю і законы, а не на парады сваіх «памочнікаў», Прэзідэнт атрымае тут падтрымку», — сказаў А. Капшай. Паводле яго слоў, галасаванне праз кабіны пацвердзіла, што больш як 20 подпісаў пад зваротам да Прэзідэнта былі сабраны шляхам прымусу. Дарэчы, у якасці прыкладу ён прывёў гісторыю са сваім калегам дэпутатам Кіберманам, ад якога даўно патрабуюць падаць у адстаўку з пасады старшыні Барысаўскага райвыканкома. Алена Скрыган звярнулася да сакратарыята сесіі і да Прэзідыума Вярхоўнага Савета з просьбай навесці парадак у зале пасяджэнняў. Яна заявіла, што трэба або абмежаваць кола асоб, якія маюць права ўваходзіць у залу, або вызначыць для іх пэўнае месца. Яе, у прыватнасці, абурыў той факт, што кіраўнікі аблвыканкомаў ці іх намеснікі кантралююць ход галасавання «падсправаздачных» дэпутатаў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

### СВЯТА З ВЕРНІКАМІ РАЗДЗЯЛІЎ ПРЭЗІДЭНТ

**«Перакананы, што толькі духоўнасць выратуе грамадства ад маральнай дэградацыі», — сказаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 14 кастрычніка на цырымоніі закладкі капсулы ў падмурак храма-помніка ў гонар Усіх Святых і Нявінна Забітых у Айчыне нашай. Ён узводзіцца ў Мінску на вуліцы Каліноўскага ля каменя, асвячонага ў 1991 годзе патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Аляксіем II, і павінен, як задумалі аўтары, стаць грамадскім мемарыялам тым, хто склаў галовы ў баях за Радзіму. Тут будзе сабрана зямля з усіх палёў бітваў і брацкіх магіл, якіх так многа ў Беларусі.**

«Мае думкі і пачуцці супадаюць з ідэаламі праваслаўя — ідэаламі дабра і веры, таму я прымаю актыўны ўдзел ва ўзвядзенні гэтага святога дома», — заявіў кіраўнік дзяржавы. Ён выказаў надзею, што гэта месца стане цэнтрам духоўных традыцый, якія складваюцца ў краіне.

Набажэнства з гэтай урачыстай нагоды правеў у катлаване для храмавага фундамента мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

«Глыбока сімвалічна, — сказаў затым Уладыка, — што закладка новага храма супала з днём святкавання Праваслаўнай царквой Пакрова Прасвятой Багародзіцы. Хрысціянскі свет верыць, што яе покрыва — гэта мацярынскае заступніцтва за ўсіх людзей».

Храм-помнік будзе ўваходзіць у комплекс Духоўна-адукацыйнага цэнтра Беларускай праваслаўнай царквы, які будуецца тут з блаславення патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II і пад патранажам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

Разам з духавенствам удзел у закладцы капсулы ў падмурак храма Усіх Святых прынялі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, дэпутаты Вярхоўнага Савета, члены ўрада.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

*ПОГЛЯД*

### Дэлегаты Усебеларускага народнага сходу ад Гродзеншчыны лічаць, што рэферэндум павінен быць праведзены 7 лістапада. Аднак ці не з'яўляецца такая заява мядзведжай паслугай Прэзідэнту?

285 (з 650) удзельнікаў Усебеларускага народнага сходу ад Гродна, Гродзенскага, Бераставіцкага, Зэльвенскага, Мастоўскага, Свіслацкага, Ваўкавыскага раёнаў і горада Ваўкавыска сабраліся 14 кастрычніка ў абласным цэнтры. З дакладам перад імі выступіў старшыня аблвыканкома Аляксандр Дубко. Закрануўшы шэраг пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця, ён даволі рэзка выказаўся аб некаторых дэпутатах Вярхоўнага Савета, выбраных на Гродзеншчыне. Вельмі не падабаецца кіраўніку абласной выканаўчай улады пазіцыя Сямёна Шарэцкага, Мечыслава Гіруця, Сямёна Домаша, Мечаслава Грыба. «Калі народ падтрымае Прэзідэнта на рэферэндуме, мы ўжо ў бліжэйшы час зможам палепшыць справы», — перакананы Аляксандр Дубко.

Затым на трыбуну падняўся старшы выкладчык кафедры ўсеагульнай гісторыі Гродзенскага дзяржуніверсітэта Генадзь Крывашчокі. Яго пазіцыя — «важна, каб выканаўчай уладзе ніхто не перашкаджаў, трэба ўхваліць змяненні, якія прапануе прэзідэнцкая «вертыкаль». Частка дэпутатаў, на думку прамоўцы, «забывае аб тых, хто іх паслаў у парламент», а некаторыя «лабіруюць інтарэсы фінансавай буржуазіі». Гэтыя вывады суправаджаліся працяглымі разважаннямі па розных аспектах гісторыі і сучаснасці, ад чаго, як падалося, некаторыя ўдзельнікі сустрэчы стаміліся. Пачулася рэпліка: «Лекцыю чытае. Мы што, студэнты?»

Наступныя прамоўцы з загадзя падрыхтаванага спіса былі больш лаканічнымі. У прыватнасці, намеснік дырэктара школы з Мастоў Людміла Лукічова, выказаўшы шкадаванне, што парламент не пайшоў на кампраміс з Прэзідэнтам, лічыць, што менавіта Аляксандр Лукашэнка сёння з'яўляецца той асобай, вакол якой маглі б аб'яднацца ўсе грамадскія рухі. «Адзіным палітыкам» з'яўляецца Прэзідэнт і для члена Савета ветэранаў Свіслацкага раёна Яўгена Фёдаравіча Дудніка. Старшыня прафкома Гродзенскай ЦЭЦ-2 Аляксандр Іваноў лічыць, што прапанаваны на рэферэндум праект Канстытуцыі мае патрэбу ў сур'ёзнай дапрацоўцы. А палкоўнік Аляксандр Лабковіч, адзначыўшы вялікую заслугу выканаўчай улады ва ўмацаванні аўтарытэту беларускай арміі і падкрэсліўшы, што вайскоўцы — гэта не нейкая адзіная «маса», якая думае аднольнокава, выказаў меркаванне, што «пытанне падтрымкі Прэзідэнта — гэта пытанне маральнасці».

У гэтай сувязі нельга не задумацца над тым, як жа стасуецца з сапраўднай падтрымкай Прэзідэнта (калі і маральнасць, і закон крочаць побач) зварот дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу ад вышэйпамянёных рэгіёнаў Прынёманскага краю. Канкрэтней — тая пазіцыя са звароту, дзе заяўлена аб неабходнасці правядзення рэферэндуму 7 лістапада. Як вядома, Аляксандр Лукашэнка і парламент не дасягнулі згоды па гэтым, далёка не самым прынцыповым пытанні. Дэпутаты, хоць і не ўсе, абвінавачваюць у гэтым Прэзідэнта. У Аляксандра Рыгоравіча — процілеглая пазіцыя. Прыгадваецца і нядаўняя прэс-канферэнцыя ў Гродзенскім аблвыканкоме. Адносна даты правядзення рэферэндуму там прагучала, што «ўсюды фігуруе 24 лістапада», як і вызначыў Вярхоўны Савет. І раптам — зварот з заклікам волевыяўляцца 7 лістапада.

У кулуарах давялося пачуць ад некаторых удзельнікаў Усебеларускага народнага сходу, што, маўляў, яны не бачаць вялікай розніцы, калі галасаваць, гэта пытанне непрынцыповае. Ніякіх аргументаў на карысць менавіта 7 лістапада не прагучала і з трыбуны. Хаця не, адзін «аргумент» усё ж быў. Дырэктар Палаца культуры тэкстыльшчыкаў Канстанцін Алёхін з усмешкай на твары заявіў, што «7 лістапада — дата сімвалічная, бо гэта «пачатак рэвалюцыі»...»

Загадзя складзены тэкст звароту прынялі без абмеркавання. Рукі ў яго падтрымку паднімалі не ўсе, аднак ніхто, калі не памыляюся, не быў супраць і не ўстрымаўся. Ведаючы, што выключным правам прызначэння даты рэферэндуму па закону валодае толькі парламент і што ігнараванне гэтага можа паставіць пад сумненне легітымнасць галасавання.

Міжволі задумваешся: няўжо менавіта так павінны паводзіць сябе сапраўдныя прыхільнікі Прэзідэнта, які, між іншым, выказваўся, што настойвае на правядзенні рэферэндуму 7 лістапада толькі ў тым выпадку, калі гэту дату не зменіць Усебеларускі народны сход, рашэнню якога яму «прыйдзецца падпарадкавацца»?

Застаецца спадзявацца, што на Усебеларускім народным сходзе гэта і іншыя пытанні будуць абмеркаваны ўсё ж больш грунтоўна і прынцыпова, чым на сустрэчы ў Гродне. «Аднак ці рэальна будзе выступіць у сталіцы?» — пацікавіўся адзін з дэлегатаў. Начальнік упраўлення арганізацыйна-кадравай работы Гродзенскага аблвыканкома Марыя Бірукова паведаміла, што жадаючых выступіць вельмі шмат і пакуль «ідзе арыенціроўка па 2-3 чалавекі ад вобласці».

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

### ЗА КУБКАМ КАВЫ Ў ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА ЖАНЧЫНЫ ГАВАРЫЛІ АБ СВАІХ НАДЗЁННЫХ ПРАБЛЕМАХ

**«Калі жанчыны ўсміхаюцца, значыць у нас няма ніякага крызісу», — такімі словамі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір пачаў 14 кастрычніка сустрэчу, прымеркаваную да Дня маці. У гэты дзень у гасцях у кіраўніка беларускага ўрада пабывалі мнагадзетныя малазабяспечаныя маці, актывісткі жаночага руху з усіх рэгіёнаў нашай рэспублікі.**

Аднак нягледзячы на ўрачыстую прычыну, прэм'ер-міністр папрасіў прысутных адкрыта расказаць аб сваіх злабадзённых праблемах, каб паспрабаваць вырашыць іх на ўзроўні кіраўніцтва рэспублікі. Бо не сакрэт, што сёння ў самым складаным матэрыяльным становішчы аказаліся менавіта мнагадзетныя сем'і. Як сказала адна з удзельніц сустрэчы — маці шасцярых дзяцей — толькі на хлеб яе сям'я штодзённа траціць каля 25 тысяч рублёў. Таму важкай дапамогай для такіх сем'яў стала б 50-працэнтная скідка пры аплаце камунальных паслуг, аб якой папрасілі прэм'ер-міністра ўдзельніцы сустрэчы. Паабяцаў кіраўнік урада разгледзець і пытанне аб падатковых ільготах для мнагадзетных маці, якія працуюць дома.

Хоць у гэты дзень віншавалі маці, не забыліся ўдзельніцы сустрэчы і аб сваіх мужах — тых, на кім ляжыць асноўны груз матэрыяльнага забеспячэння сем'яў. Бо ў выпадку скарачэння на прадпрыемстве бацькі мнагадзетнага сямейства яго дзеці застаюцца літаральна без сродкаў да існавання. Тут ёсць над чым задумацца ўраду — сацыяльна абараніць не толькі маці, але і мнагадзетнага бацьку.

Удзельніцы сустрэчы ў гутарцы з Міхаілам Чыгірам закранаілі таксама жыллёвую праблему, якая для многіх — проста катастрафічная. Гучалі і іншыя вострыя пытанні. Разам з тым жанчыны былі аднадушныя ў тым, што адзін чалавек, нават надзелены самай высокай уладай, не зможа вырашыць іх праблемы без дапамогі прадстаўніц прыгожага полу. Як сказала адна з удзельніц сустрэчы, «мы павінны не толькі прасіць, але і ўзяць большую частку клопатаў на сябе, бо гэта перш за ўсё нашы дзеці».

Нягледзячы на існуючыя праблемы, жанчыны падзякавалі кіраўніцтву рэспублікі за праяўляемыя клопаты, у прыватнасці за павышэнне дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. Стане важкай падмогай для ўдзельніц сустрэчы і падарунак ад прэм'ер-міністра: кожнай з жанчын было ўручана па мільёну рублёў.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ*

### УПЛЫВОВАГА ДЫРЭКТАРА САЎГАСА ЧАКАЕ ЛАВА ПАДСУДНЫХ

**Былая партыйна-гаспадарчая наменклатура, паспяхова перажыўшы «трыумфальнае шэсце дэмакратыі» і нават «крыжовы паход» супраць карупцыі, па-ранейшаму застаецца непатапляльнай. Ні адзін з вядомых высокапастаўленых кампартыйных ці савецкіх чыноўнікаў, якія фігуравалі ў шматлікіх антыкарупцыйных дакладах і нават крымінальных справах, да гэтага часу так і не трапіў на лаву падсудных. Складваецца ўражанне, што «старыя наменклатурныя сувязі» і цяпер здольны засцерагчы членаў свайго «клана» ад суда.**

Паказальнай у гэтым плане можа стаць справа былога дырэктара саўгаса «Заслаўскі» Мінскага раёна, былога старшыні Валожынскага райвыканкома, колішняга супрацоўніка Мінскага абкома КПБ Анатоля Зязеткі, якому 15 жніўня мінулага года было прад'яўлена абвінавачанне ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці ў асабліва буйных памерах.

Пра Анатоля Міхайлавіча «Звязда» ўжо неаднаразова пісала, падрабязна расказваючы аб яго спосабах будаўніцтва шыкоўнага катэджа, а таксама аб яго спробе падчас выбараў у Вярхоўны Савет 13 склікання «задобрыць» выбаршчыкаў за кошт узначальваемага ім саўгаса.

Следства па справе Зязеткі цягнулася больш года, натыкаючыся на розныя перашкоды.

І вось 14 кастрычніка гэтага года следчы па асабліва важных справах следчага ўпраўлення МУС краіны Віктар Лабынка накіраваў у Пракуратуру Беларусі для зацвярджэння абвінаваўчае заключэнне па справе былога дырэктара саўгаса. Згодна з гэтым дакументам, Анатоль Зязетка абвінавачваецца ў крадзяжы маёмасці ў асабліва буйных памерах (з улікам індэксацыі на лістапад 1995 года сума ўкрадзенага складае прыкладна 600 мільёнаў рублёў).

Апроч таго Анатоль Зязетка абвінавачваецца ва ўчыненні шэрага іншых злачынстваў: у хабарніцтве, выманьванні крэдытаў, службовым падлогу. Усяго ў заключэнні следства значыцца 27 (!) пунктаў абвінавачання.

Адметна, што сведкамі па справе Зязеткі следчым заяўлены дзеці вядомых на Беларусі людзей: сын былога сакратара ЦК КПБ Камая і нашчадак экс-кіраўніка спраў Савета Міністраў Каўко. Магчыма, у якасці сведкі ў суд будзе выкліканы таксама небезвядомы былы дзяржсакратар урада Кебіча Генадзь Данілаў.

Зрэшты, ці адбудзецца працэс над Анатолем Зязеткам на гэты раз?

Пытанне зусім не рытарычнае. Першая спроба «запрасіць» Антоля Зязетку на лаву падсудных была зроблена следствам яшчэ ў ліпені гэтага года. Аднак народны суд Мінскага раёна і Заслаўя вярнуў гэтую справу на дадатковае расследаванне. Хоць, як заявіў следчы па асабліва важных справах следчага ўпраўлення МУС Віктар Лабынка, прэтэнзіі нарсуда былі, скажам так, з разраду юрыдычнай казуістыкі. Суд, вядома ж, лічыць інакш. Хто з гэтых бакоў мае рацыю, дакладна вызначыць цяжка.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

### УЛАДЗІМІР РУСАКЕВІЧ — ДЭЛЕГАТ СХОДУ

Педагагічны калектыў Агарэвіцкай сярэдняй школы Ганцавіцкага раёна выбраў віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча дэлегатам Усебеларускага народнага сходу. Як паведаміла прэс-служба Кабінета Міністраў, 12 кастрычніка адбылася яго сустрэча з настаўнікамі школы. На ёй абмеркаваны стан і перспектывы развіцця сацыяльнай сферы, дзяржаўнага будаўніцтва ў краіне.

Уладзімір Русакевіч наведаў раённую бальніцу, якая ўзводзіцца, камбінат для сушкі агародніны. На сустрэчах у працоўных калектывах іх удзельнікі выказалі адабрэнне дзеянням Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі па стабілізацыі эканомікі, павышэнню жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Актыўна падтрымана і ініцыятыва кіраўніка дзяржавы аб правядзенні 7 лістапада рэспубліканскага рэферэндуму.

**БЕЛТА.**

## РОЗГАЛАС

**«Гарачыя» тэлефоны «Звязды» 268-29-72 і 268-27-51**

## ДЗІЦЯ ЗАРАЗ НЕПАМЕРНАЯ РАСКОША?

**Пасля размовы з нашай чытачкай Шалабодавай з Магілёўскага раёна мы зрабілі выснову: «заводзіць» дзіця зараз — значыць апускацца адразу на прыступку ніжэй на грамадскай сацыяльнай лесвіцы...**

Так лічаць людзі, якія ўжо прайшлі шлях выхавання ўласнага сына альбо дачкі. Гісторыя выхавання нагадвае назву знакамітага рамана Аляксея Талстога «Блуканне па пакутах...»

Ну, па-першае, вядома, сучасныя радзільныя дамы. Як расказала нам маладая маці сп. Шалабодава, туды патрэбна несці літаральна ўсё (ну за выключэннем, напэўна, ложка) — лекі, самыя неабходныя рэчы, пялёнкі і г. д. Гэты спіс вельмі вялікі і зойме, напэўна, пры дэталёвым пералічэнні большую частку газетнага аб'ёму...

Пасля «блуканняў» у радзільным доме, калі вы ўсё ж здолееце адтуль выйсці (з расстроенымі нервамі, са слязьмі пасля спрэчак з урачамі. Што, праўда, нічога не варта ў параўнанні з родным камячком, што лагодна пацмоквае ў калысцы), адразу ўзнікае ўвесь спектр праблем. Пялёнкі, паўзункі, дзіцячае харчаванне, вечнае недасыпанне...

Гэтыя турботы ў рэшце рэшт прыемныя, калі б яны былі забяспечаны грашыма. Сям'я Шалабодавых балансуе зараз на празрыстай мяжы выжывання. Літаральна выжывання. Амаль тры месяцы жылі на дзяржаўную дапамогу па дагляду за дзіцем, якая складае... крыху больш чым 150 тысяч. Трое чалавек павінны былі харчавацца, плаціць за кватэру, купляць неабходныя рэчы (тыя ж пялёнкі). Цяжка ўявіць такое становішча.

«Вялікім шчасцем было, калі мужу, нарэшце, далі ў калгасе заробак (450 тысяч)», — дзялілася з намі чытачка.

Выходзіць, насельніцтва рэспублікі ў маладым узросце стаіць зараз перад дылемай: працягваць свой род ці не. Апошнія дэмаграфічныя даследаванні паказваюць, што большасць выбірае, дарэчы, апошняе...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## БАРАЦЬБА З П'ЯНСТВАМ: ДРУГІ КРУГ?

**Антыалкагольная кампанія, што разгарнулася ў сярэдзіне 80-х, яшчэ не сцёрлася з нашай памяці. Але, відаць, далёка не кожны ведае, што сёння ў краіне п'янству зноў аб'яўлены бой!**

Вярнулася нават ранейшая тэрміналогія. Так, у сталіцы на базе Мінгарвыканкома створана гарадская камісія па барацьбе з п'янствам. І ў яе бліжэйшых планах на гэты год — шэраг мерапрыемстваў, такіх, напрыклад, як праверка аўтатранспартных арганізацый, што дапусцілі найбольшую колькасць парушэнняў антыалкагольнага заканадаўства, або праверка прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці, што рэалізуюць спіртныя напоі ў начны час. Акрамя таго, сумесны «ўдар» з мэтай вызначэння якасці рэалізуемых спіртных напояў (у прыватнасці, ацэнкі захавання правілаў складзіравання і захоўвання тавару) абрушыцца на гандлёвыя прадпрыемствы Мінска з боку спецыялістаў гарадскіх санэпідслужбаў і прадстаўнікоў УУС Мінгарвыканкома.

А сітуацыя ў сталіцы склалася сёння трывожная. За 8 месяцаў гэтага года ў выніку правядзення рэйдавых і прафілактычных мерапрыемстваў было выяўлена 650 фактаў парушэнняў гандлю спіртнымі напоямі; за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства прыцягнута да адказнасці 91.209 грамадзян. За знаходжанне на рабочым месцы ў нецвярозым стане да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 5750 чалавек, г. зн. на 12 працэнтаў больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

Расце таксама і колькасць вадзіцеляў аўтатранспарту, якія садзяцца за руль у стане алкагольнага ап'янення: 4605 такіх «гаротнікаў» было затрымана са студзеня па жнівень супрацоўнікамі ДАІ.

І яшчэ адна сумная лічба: 30 тысяч хранічных алкаголікаў на сённяшні дзень стаяць на ўліку ў наркалагічных дыспансерах горада.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## П'ЯНАГА ВАДЗІЦЕЛЯ СПЫНІЛА ТОЛЬКІ ЗБРОЯ

**Першая гадзіна новага дня, 9 кастрычніка была азмрочана ў Гродне пісталетнымі стрэламі. Сваю табельную зброю былі вымушаны прымяніць работнікі асобнага батальёна дарожна-патрульнай службы абласной дзяржаўтаінспекцыі.**

Пагоня за аўтамабілем «Фольксваген—Пасат» белага колеру, якая рухалася на вялікай скорасці, віляючы ад аднаго бардзюра да другога, пачалася на вуліцы Вясенняй. Затым былі вуліцы Каліноўскага, Іўліева, Сухамбаева, Горкага, зноў Каліноўскага. 16 папераджальных стрэлаў у паветра так і не прымусілі вадзіцеля адумацца. І толькі тры прастрэленыя колы зрабілі далейшую язду немагчымай.

Гаспадар іншамаркі Віталь Г., 1949 года нараджэння, быў моцна п'яны. Добраахвотна выйсці з салона ён адмовіўся. Давялося супрацоўнікам ДАІ прымяняць сілу і наручнікі. Што ж далей? Крымінальнай адказнасці за тое, што ўчыніў Віталь Г., нашымі законамі не прадугледжана. Максімальнае пакаранне для яго — дык гэта пазбаўленне вадзіцельскіх правоў на тры гады. Зусім не смяротна, здараюцца ў жыцці і значна больш сур'ёзныя няшчасці.

Дарэчы, толькі за верасень на Гродзеншчыне зарэгістравана 80 дарожна-транспартных здарэнняў. 91 чалавек паранены, 13 — загінулі. 19 здарэнняў адбылося па віне п'яных вадзіцеляў.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## АВАРЫЯ

## ДЫЗПАЛІВА ВЫЛІЛАСЯ Ў БАЛОТА

У суботу, 12 кастрычніка, служба эксплуатацыі Мазырскага ўпраўлення магістральных нафтапрадуктаводаў выявіла аварыю на прадуктаводзе ў Шклоўскім раёне, па якому з Расіі ў Латвію перапраўляецца дызельнае паліва. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, паводле папярэдніх ацэнак, прычынай аварыі магло быць раскраданне паліва.

Так гэта ці не, але прыродзе нанесены істотны ўрон: дызпаліва трапіла ў нізіну — у забалочанае месца і меліярацыйны канал. Па запэўніванню спецыялістаў Мінпрыроды, прыняты ўсе меры па лакалізацыі ачага забруджвання, і нафтапрадукты не трапяць у Днепр. На месцы аварыі працуе спецыяльная камісія, арганізаваны кантроль за станам водных аб'ектаў, якія знаходзяцца недалёка.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## «ЗГУБІЎСЯ» ТРАКТАР...

Ці можна згубіць іголку? Вельмі проста... А трактар? Уяўляецца з цяжкасцю. А вось на мінскім авіярамонтным заводзе гэта аказалася магчымым. Супрацоўнікамі Мінскага АУС на транспарце ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў тут быў устаноўлены факт недастачы трактара «Т-25», які лічыцца на балансе прадпрыемства. Хто і калі прырабіў трактару «ногі», яшчэ прыйдзецца разабрацца.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ФАЛЬШЫВАМАНЕТЧЫКІ ПЕРАЖЫВАЮЦЬ КРЫЗІС «ЖАНРУ»

***Добрая вестка з фронту барацьбы са злачыннасцю. Фальшываманетчыкі, якія за апошнія пяць гадоў актыўна наваднялі нашу краіну падробленымі грашовымі знакамі, сёлета панеслі цяжкія страты і вымушаны зменшыць аб'ёмы сваёй злачыннай «вытворчасці».***

У гэтым, безумоўна, найвялікшая заслуга праваахоўных органаў. У прыватнасці, упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (УБЭЗ) Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

Толькі за 9 месяцаў сёлетняга года супрацоўнікамі УБЭЗ раскрыта 158 фальшываманетных злачынстваў, што на 64 больш, чым за аналагічны перыяд года мінулага. Выяўлена 27 злачынных груп, якія займаліся падробкай і распаўсюджваннем фальшывых грашовых знакаў. Для параўнання: за ўвесь мінулы год было раскрыта 17 такіх злачынных груп. Не дзіва, што і размах фальшываманетніцтва істотна зменшыўся. За 9 месяцаў гэтага года зарэгістравана 1526 злачынстваў, звязаных з падробкай і збытам несапраўдных грошай, што на 68 менш, чым за такі ж перыяд 1995-га.

І ўсё ж праблема фальшываманетніцтва на Беларусі, нягледзячы на дасягнутыя праваахоўнымі органамі поспехі ў барацьбе з гэтым відам, застаецца вельмі актуальнай.

Таму карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з намеснікам начальніка аддзела УБЭЗ **Валерыем ГОЎЗІЧАМ** і папрасіў больш падрабязна прааналізаваць сітуацыю з вырабам і збытам фальшывых грошай на тэрыторыі Беларусі.

**— Валерый Георгіевіч, наколькі мне вядома, раней беларускія фальшываманетчыкі аддавалі перавагу амерыканскаму долару. Ці змяніліся іх сімпатыі цяпер? Можа ўзрос «аўтарытэт» нашай нацыянальнай валюты?**

— Не. Сёлета намі канфіскавана толькі 26 фальшывых разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі. У асноўным гэта купюры вартасцю 20 тысяч рублёў, падробленыя з дапамогай каляровага ксеракса.

А найбольшай папулярнасцю, як і раней, карыстаецца вечна зялёны долар. Дакладней, купюры вартасцю 100 долараў. За 9 месяцаў гэтага года намі выяўлена 1844 фальшывыя купюры амерыканскіх долараў.

На другім месцы гэтага своеасаблівага «рэйтынгу» знаходзіцца расійскі рубель. Сёлета намі канфіскаваны 1394 купюры банка Расіі. Вось самы свежы прыклад. 4 кастрычніка гэтага года ў Мінску на Камароўскім рынку намі затрыманы жыхарка беларускай сталіцы і грамадзянін Літвы. Яны спрабавалі збыць фальшывыя расійскія рублі. У фальшываманетчыкаў канфіскавана 998 пяцідзесяцітысячных купюр банка Расіі. Усе фальшыўкі, па заключэнню экспертызы, падроблены спосабам плоскага афсетнага друку і вонкава амаль не адрозніваюцца ад сапраўдных.

І амерыканскія долары, і расійскія рублі, якія падрабляюць фальшываманетчыкі, апошнім часам маюць даволі высокую якасць і іх вельмі цяжка адрозніць ад сапраўдных грошай. Фактаў частковай падробкі, калі, напрыклад, злачынцы прыклейваюць да пяцідоларавай купюры нуль, зараз вельмі мала. Пры сучасным развіцці капіравальнай тэхнікі фальшываманетчыкі імкнуцца друкаваць грошы.

**— І дзе ж знаходзяцца гэтыя «друкарні»?**

— Па нашых звестках, існуюць тры каналы паступлення фальшывых грошай на Беларусь: з Польшы, Прыбалтыкі і Каўказа.

У нас у Беларусі дзейнічаюць у асноўным не «вытворцы» фальшывых грошай, а перакупшчыкі, збытчыкі і кур'еры, якія імкнуцца наладзіць транзітныя пастаўкі падробленых купюр у іншыя краіны, найчасцей у Расію.

Так што мы змагаемся ўжо з вынікам працы цэлай сістэмы фальшываманетчыкаў. А ліквідаваць увесь гэты сіндыкат, на жаль, не маем магчымасці. Тут патрэбна больш цеснае ўзаемадзеянне з калегамі з суседніх дзяржаў.

**— Вы хочаце сказаць, што, напрыклад, праваахоўныя органы Літвы ці Польшчы не вельмі зацікаўлены ў ліквідацыі «фальшываманетных двароў», якія, па вашых звестках, дзейнічаюць на тэрыторыі гэтых дзяржаў?**

— Наўрад ці знойдзецца у свеце паліцыя, якая б спрыяла фальшываманетчыкам. Нават калі злачынцы падрабляюць грошы іншых дзяржаў, яны наносяць шкоду і сваім суграмадзянам. Напрыклад, падробленыя долары, нямецкія маркі ці іншыя стабільныя валюты збываюцца амаль ва ўсіх краінах свету.

Я ж проста меў на ўвазе адсутнасць цесных кантактаў пры раскрыцці фальшываманетных злачынстваў. А ў тым, што фальшываманетніцтва — зло, спадзяюся, не трэба пераконваць нікога з замежных калег.

**— І ўсё ж праваахоўныя органы Беларусі апошнім часам дасягнулі значных поспехаў у барацьбе з фальшываманетчыкамі. Ці азначае гэта, што і надалей колькасць такіх злачынстваў будзе істотна змяншацца?**

— Не хацелася б сурочыць, але, мяркую, у бліжэйшы час адбудзецца спад фальшываманетніцтва.

Па-першае, сітуацыя намі ўзята пад пільны кантроль. Без сціпласці заўважу, што мы навучыліся змагацца з гэтым відам злачынства.

Па-другое, больш дасведчанымі і пільнымі сталі самі нашы грамадзяне. Калі раней мала хто ведаў, як адрозніць, напрыклад, фальшывую доларавую купюру ад сапраўднай, то зараз большасць нашых суайчыннікаў проста так не падманеш. Навучыліся. На сваім і чужым горкім вопыце.

Праўда, і цяпер не лішнім будзе нагадаць некаторыя меры перасцярогі. Сутнасць іх заключаецца ў тым, што трэба імкнуцца ажыццяўляць розныя аперацыі з валютай у банкаўскіх установах.

А калі ўжо вымушаны пайсці на кантакт з «мяняламі» з «чорнага рынку» ці прадаяце якую-небудзь дарагую рэч, будзьце вельмі пільнымі, паважаныя суграмадзяне!

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## СІТУАЦЫЯ

# ТЭРМІН ПРАЙШОЎ. ЯКІ ВЫНІК?

***10 кастрычніка быў апошні тэрмін, да якога прыватныя прадпрымальнікі павінны былі заплаціць новаўведзены фіксаваны падатак. Як ужо пісала наша газета, пастанова аб новым падатку выклікала бурную рэакцыю сярод камерсантаў рэспублікі, якая вылілася ў правядзенне шырокамаштабных забастовак. Баставалі рынкі сталіцы і ўсіх абласных цэнтраў рэспублікі. Правядзенне забастовак прадэманстравала арганізаванасць і згуртаванасць камерсантаў, а той факт, што быў створаны прафсаюз прыватных прадпрымальнікаў, паказвае іх рашучасць паслядоўна змагацца за свае правы.***

Спачатку гэтую нездаволенасць выклікаў памер падатку — 1 млн. 300 тысяч рублёў штомесячна. Шляхам правядзення арганізаванай у Мінску 22 жніўня забастоўкі ўдалося прыпыніць уступленне ў сілу новага ўказа да 1 кастрычніка. Потым пачаў дзейнічаць створаны на сталічным стадыёне «Дынама» прафсаюз прыватных прадпрымальнікаў. Вынікам намаганняў гэтага прафсаюза з'явілася чарговая забастоўка, праведзеная 26 верасня ўжо не толькі ў Мінску, але і ў іншых абласных гарадах. І трэба прызнаць, што такое актыўнае і салідарнае супраціўленне «чаўнакоў» усёй рэспублікі не прайшло бясследна. Памер фіксаванага падатку быў зменшаны ў два з паловай разы. Цяпер тыя камерсанты, што гандлююць на рэчавых рынках, павінны заплаціць штомесячна падатак у суме 500 тысяч рублёў. Так званыя «скурнікі» плацяць 800 тысяч рублёў замест першапачатковых 1,5 млн. «Мяснікі» на харчовых рынках замест 1,3 млн. плацяць 400 тысяч рублёў. Як бачыце, істотная розніца. І, як вынік, рэзкая змена адносінаў да пастановы аб увядзенні фіксаваных ставак. Наколькі нам вядома, практычна ўсе прыватныя прадпрымальнікі заплацілі ў казну патрэбную суму.

Але хвалі, падобныя на ўзнятыя кінутым у ваду каменем, не ўляглісія. Створаны пры стадыёне «Дынама» аб'яднаны камітэт прафсаюза прыватных прадпрымальнікаў г. Мінска і Мінскай вобласці настойліва працягвае пачатую справу аб абароне правоў камерсантаў. Старшыня камітэта Кацярына Навумовіч паведаміла нам, што іх камітэт дабіўся, у прыватнасці, дыферэнцыяцыі падатку ў залежнасці ад колькасці рабочых дзён. Іншымі словамі, тыя камерсанты, якія працуюць толькі па выхадных днях, будуць плаціць падатак крыху меншы, чым іх штодзённа працуючыя калегі. Таксама цяпер пры няўплаце падатку прадаўца не змогуць пазбавіць месца, што прадугледжвалася пачатковым варыянтам пастановы.

Наступным крокам прафсаюза з'явілася напісанне калектыўнага пісьма на імя прэм'ер-міністра М. Чыгіра з просьбай адмяніць адрыўныя талоны. Ужо вядома, што на гэтым пісьме М. Чыгір пакінуў станоўчую рэзалюцыю і накіраваў яго Прэзідэнту. Разам з тым рухаецца сумесная работа з Вярхоўным Саветам над законам аб спрошчаным падаткаабкладанні. Сутнасць закона — пакупка прыватным прадпрымальнікам патэнта на дазвол гэтага віду дзейнасці, што аўтаматычна здымае груваздкую сістэму адрыўных талонаў, і максімальнае спрашчэнне бухгалтарскага ўліку.

К. Навумовіч паведаміла таксама, што прафсаюз мае на мэце акрамя правазнаўчай дзейнасці прывядзенне дабрачынных акцый. Па яе словах, хочацца нарэшце развеяць у нашага народа ўяўленне аб камерсантах як аб ірвачах і хапугах. Усе мы грамадзяне адной дзяржавы з аднолькавымі жаданнямі і мэтамі.

Што там будзе далей — пакажа час. Пакуль жа адназначна можна сказаць, што прадпрымальнікам пацвердзілі, што яны нездарма называюцца менавіта так і што патрачаныя намаганні не прапалі марна. Значнае зніжэнне фіксаванага падатку і з'яўленне на грамадскай сцэне іх граматнага і «зубастага» прафсаюза пацвярджае гэтую выснову.

**Сяргей КУЛАКОЎ.**

## ГАСЦЁЎНЯ АСТАПА БЕНДЭРА

# НЕСТАНДАРТНЫЯ МЕТАДЫ БІЗНЕСУ І ЭКАНАМІЧНАЕ МАХЛЯРСТВА

**(ВЫТРЫМКІ З КНІГІ)**

**ПРАДАВЕЦ ЁСЦЬ, А ПАКУПНІК ЗНІКАЕ**

Да пасрэдніка звяртаецца малавядомая фірма з просьбай дапамагчы купіць пэўны тавар. Прычым купіць тавар фірма згодна па высокай цане. «Зусім выпадкова» праз некалькі дзён да пасрэдніка звяртаецца кліент, які можа прадаць запрошваемы тавар, але вельмі нятанна. Пры гэтым ён патрабуе залог і ўплаты значнай няўстойкі ў выпадку адмовы ад атрымання тавару.

Пасрэднік папярэдне бяжыць да пакупніка, заключае з ім дагавор з такім жа памерам няўстойкі (але без залогу), а затым падпісвае кантракт з пастаўшчыком і прадастаўляе залог.

Калі пасрэднік прывозіць тавар пакупніку, то фірма-пакупнік аказваецца «пустышкай» без статутнага фонду і з ліпавай пячаткай, а яе офіс арандаваны на падстаўных асоб. Пасрэднік застаецца з таварам, купленым па вялікай цане, і нясе непазбежныя страты, у той час як прадавец і «пакупнік» дзеляць атрыманы даход.

**МАСІРАВАНАЕ ЗАКЛЮЧЭННЕ ДАГАВОРАЎ НА ПАСТАЎКУ ТАВАРАЎ З АБМЕЖАВАНЫМ ПОПЫТАМ**

Аптовай фірме канфідэнцыяльна прапануецца партыя тавару, які карыстаецца абмежаваным попытам. Спецыялісты гэтай фірмы высвятляюць, што хоць попыт і абмежаваны, але ён ёсць. Таму цэны на тавар высокія і абяцаюць вялікі прыбытак. У выніку падпісваецца кантракт на пастаўку і пералічваецца аванс. У кантракце асобна агаворваецца яго канфідэнцыяльнасць і вялікі памер няўстойкі ў выпадку адмовы ад пастаўляемага тавару.

Такая работа праводзіцца і з іншымі аптовымі пастаўшчыкамі. Яны таксама вывучаюць рынак і пераконваюцца, што хоць тавар не масавага спажывання, але на рынку ён адсутнічае і на ім можна добра зарабіць. Яны таксама заключаюць канфідэнцыяльныя дагаворы з агаворваемай вялікай няўстойкай.

Далей магчымы тры асноўныя варыянты.

**Першы варыянт**. Усе аптовыя пакупнікі выкідваюць свой тавар на рынак, які, г. зн. рынак, адразу затаварваецца, і цэны рэзка падаюць. Прадавец зарабляе за кошт забеспячэння канфідэнцыяльнасці. Мала таго, у выпадку калі прадавец з'яўляецца манапалістам у пастаўцы тавару, то на першым этапе ён мог і сам арганізаваць дэфіцыт тавару, а такім чынам, і высокія цэны на яго.

**Другі варыянт**. Яшчэ да пастаўкі тавару арганізуецца ўцечка інфармацыі аб вялікай колькасці кантрактаў на пастаўку ўказанага тавару. Аптовыя пакупнікі пачынаюць загадзя мітусіцца для таго, каб не аказацца ў вялікіх стратах. Адмовіцца ад пастаўкі нельга, таму што ў гэтым выпадку разарыць вялікі памер няўстойкі.

У гэты момант з'яўляецца добры спадар, які згодны купіць тавар па цане, стратнай для аптовага пакупніка, але тым не менш больш прымальнай у параўнанні з выплатай няўстойкі. Здзелка заключаецца, і аптовы пакупнік выратоўвае асноўную частку сваіх грошай, а пастаўшчык зарабляе па наступнай схеме:




У схеме адсутнічае тавар. Пры граматным правядзенні аперацыі ён і патрэбны ў адным экземпляры, які дэманструецца ўсім патэнцыяльным аптовым пакупнікам.

**Трэці варыянт**. Попыт на тавар арганізоўваецца штучна. Для гэтага пастаўшчык тавару дамаўляецца з некалькімі не вельмі прыстойнымі фірмамі аб тым, што яны за камісійнае ўзнагароджанне пачнуць даваць рэкламу аб сваёй крайне вострай патрэбнасці менавіта ў абсталяванні, якое прадае пастаўшчык-махляр. У выніку ствараецца ўражанне, што гэта абсталяванне карыстаецца попытам. І абавязкова знойдзецца некалькі наіўных аптовых пакупнікоў, якія заключаць кантракты на пастаўку абсталявання яшчэ да таго, як будзе заключаны кантракт на яго продаж.

**МАХЛЯРСТВА З ПЕРАДАЧАЙ ТАВАРУ НА КАНСІГНАЦЫЮ**

а) Фірма-махляр перадае слабаліквідны тавар для рэалізацыі на ўмовах кансігнацыі іншаму прадпрыемству або прыватнаму прадпрымальніку. Агаворваецца канкрэтны тэрмін, на які тавар перадаецца для продажу. У дагавор таксама ўводзіцца пункт прыкладна такога зместу: «За невяртанне тавару або яго кошту пасля заканчэння тэрміну кансігнацыі або невяртанне кошту страчанага ці пашкоджанага тавару ў трохдзённы тэрмін камісіянер (г. зн. пакупнік тавару на кансігнацыю. — А. Л.) дадаткова плаціць няўстойку ў памеры 10 працэнтаў кошту нявернутага тавару за кожны дзень пратэрміноўкі».

Пасля падпісання такога дагавора і перадачы тавару на кансігнацыю камітэнт знікае. Калі тавар камісіянерам не прададзены, то да моманту заканчэння дзеяння дагавора камітэнта-махляра практычна немагчыма знайсці. Ён з'яўляецца зноў толькі праз дватры месяцы пасля заканчэння тэрміну кансігнацыі з патрабаваннем вярнуць тавар і заплаціць няўстойку ў адпаведнасці з вышэй выкладзеным пунктам дагавора. Такая няўстойка можа дасягаць дзесяціразовага кошту тавару.

Таму камісіянерам, якія падпісалі дагавор на апісаных вышэй умовах, мэтазгодна любымі спосабамі рэалізоўваць тавар у агавораныя дагаворам тэрміны. Калі гэтага зрабіць не ўдалося, неабходна прымаць усе меры да своечасовага вяртання тавару. У крайнім выпадку, каб пазбегнуць галаўнога болю ад разбору ў судзе або з рэкецірамі, па заканчэнні тэрміну дзеяння дагавора мэтазгодна пералічыць кошт нерэалізаванага тавару хітраму камітэнту і паціхеньку займацца рэалізацыяй тавару ўжо як свайго ўласнага.

б) Хітрым можа быць не толькі камітэнт, але і камісіянер. Пры гэтым махлярства звычайна будуецца на атрыманні вялікай партыі тавару на ўмовах кансігнацыі і знікнення з ім.

**З аптовай фірмай па пастаўцы прадуктаў харчавання стала працаваць малавядомае прыватнае прадпрыемства, якое спачатку набыло невялікія партыі тавару на ўмовах перадаплаты. Тавар рэалізоўваўся хутка, таму што рознічныя цэны прыватным прадпрыемствам устанаўліваліся нізкія, з мінімальным прыбыткам. Прыватніку было важна паказаць аптоваму пастаўшчыку, што ён працуе аператыўна і здольны «абярнуць» вялікія партыі тавару.**

**Пасля некалькіх паспяховых аперацый аптовы пастаўшчык пачаў даваць тавар на кансігнацыю, які па-ранейшаму рэалізоўваўся па мінімальных цэнах з хуткім абаротам грошай.**

**Нарэшце, давяраючы такому «спрытнаму» камісіянеру, камітэнт рашыўся аддаць на кансігнацыю некалькі фураў з таварам, з якімі камісіянер знік...**

**АПЛАТА МЫТНАГА ЗБОРУ ЗА ЧУЖЫ КОШТ**

Фірме прапануецца заплаціць мытны збор, які складае значную частку кошту імпартуемага тавару, у абмен на долю прыбытку ад рэалізацыі гэтага тавару. У ходзе папярэдняга аналізу праекта спецыялісты фірмы робяць выснову, што тавар ёсць і ўсё ў здзелцы чыста. Для большай гарантыі атрымальнікам тавару назначаецца банк, у якім абслугоўваецца будучая ахвяра.

Фірма аплачвае мытную пошліну і праз нейкі час яе работнікі накіроўваюцца на мытню атрымаць тавар. Аднак аказваецца, што за кошт аплачанай мытнай пошліны праз мяжу прапушчаны тавар па вельмі падобнаму кантракту. Натуральна, што гэты кантракт таксама рыхтавалі аферысты. У выніку іх тавар прайшоў без мытнага збору, а ў фірмы — мноства праблем.

**Аляксандр ЛУЧАНОК,**
**кандыдат эканамічных навук**

**(Аб умовах набыцця даведніка можна атрымаць інфармацыю па тэл.: (017) 268-45-60; 269-11-14.)**

**Працяг. Пачатак у №246**

**Працяг будзе.**

## ПАСЛЯ ПРАВЕРКІ СКАРГІ

## З ХВОРЫМІ ДЗЕЦЬМІ ТАК АБЫХОДЗІЦЦА НЕЛЬГА...

**Жыхарка г. Мінска Марыя Арцёмаўна Касцюкевіч звярнулася ў рэдакцыю са скаргай на ўрача «хуткай дапамогі», якая па выкліку няўважліва аднеслася да яе хворага ўнука.**

Вось што паведаміла першы намеснік начальніка ўпраўлення аховы здароўя Мінгарвыканкома Л. Сакалоўская:

— Пісьмо, якое паступіла з газеты «Звязда», уважліва разгледжана. Унука аўтаркі скаргі 24 жніўня сапраўды агледзела ўрач-педыятр станцыі хуткай медыцынскай дапамогі Н. Саўчанка. У сувязі з вострай рэспіраторнай віруснай інфекцыяй у дзіцяці была дадзена рэкамендацыя прадоўжыць прыём парацэтамолу і ў далейшым звярнуцца ў паліклініку.

Разам з тым урачом было дапушчана парушэнне санітарных правілаў пры аглядзе хворага хлопчыка і не былі дадзены больш падрабязныя тлумачэнні аб характары яго захворвання.

Гэта пісьмо разгледжана ў калектыве ўрачоў станцыі хуткай медыцынскай дапамогі, а ўрач Н. Саўчанка прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці.

Адміністрацыя станцыі хуткай медыцынскай дапамогі просіць у М. Касцюкевіч прабачэння за няправільныя паводзіны свайго работніка.



# Бабулька Насця з вёскі Вераб'ёўка

**Год за годам ляціць час, нібы птушкі ў восеньскай чарадзе. Колькі іх прамільгнула над гэтымі ціхімі водамі ракі, над парослымі берагамі? Можа таму і рэчку назвалі Пціччу. Можа таму і маленькай вёсачцы на беразе гэтай ракі далі імя Вераб'ёўка. Старэнькія хаткі ўздоўж адзінай вуліцы — нібы гнёзды, у кожнай з іх свой лёс: адна поўніцца дзіцячым шчэбетам, другая маўкліва і мудра пазірае на свет старымі вачамі вокнаў.**

**Праз такое маленькае акенца ў хату бабулькі Насці Ляпешкі льюцца промні апошніх пагодлівых дзён. Ніхто ў Вераб'ёўцы не прыгадае столькі восеньскіх дзён, як яна: дзевяноста пяць гадоў глядзіць не нагледзіцца на гэтую зямлю, дзе яе шчасце і пакуты прайшлі поруч. Хіба зараз адкажаш, чаго ў жыцці было больш?**

**Было шчасце мець дзяцей — і былі пакуты бачыць, як яны паміраюць. Была радасць уваходзінаў у новую хату — і было ґора глядзець на спаленую фашыстамі вёску. Было вялікім задавальненнем прабегчы басанож па росным лузе — і вось прыйшла крыўдная нямогласць: не дакульгаць ужо ёй да той рэчкі Пціч. Кажуць, памялела яе рэчка. Кажуць, няма ўжо сярод жывых тых людзей, каму пякла яна партызанскі хлеб. Кажуць, толькі ў школьным музейчыку можна дакрануцца цяпер да родных кожнаму старому чалавеку рэчаў. Добра, што зберaглі гэтыя рэчы для дзятвы: няхай ведаюць, як раней жылі.**

**А як жылі раней? Гэтак жа, як і сёння: шчыравалі, любілі жыццё, праводзілі год за годам. Гэтак жа штовосень ляцелі чароды над Пціччу, і людзі думалі: дай Божа, каб зноў сустрэць вясну.**

*Пухавіцкі раён.* **Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## АФІЦЫЙНА

# Нацыянальны банк папярэджвае

**Пастановай Кабінета Міністраў і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні часовага палажэння аб нябанкаўскіх фінансавых арганізацыях у Рэспубліцы Беларусь» ад 23.07.96 г. № 480/б загадана дзеючым нябанкаўскім фінансавым арганізацыям у трохмесячны тэрмін прайсці перарэгістрацыю ў Нацыянальным банку Беларусі. Да гэтага часу дакументы для праходжання перарэгістрацыі пададзены толькі адной фінансавай кампаніяй.**

У сувязі з гэтым Нацыянальны банк яшчэ раз папярэджвае, што дзейнасць фінкампаній і іншых юрыдычных і фізічных асоб па ажыццяўленню імі банкаўскіх аперацый без адпаведнай ліцэнзіі Нацыянальнага банка з'яўляецца процізаконнай, і нагадвае, што 23 кастрычніка 1996 г. канчаецца тэрмін прыёму дакументаў для праходжання перарэгістрацыі і атрымання ліцэнзіі на правядзенне асобных відаў банкаўскіх аперацый.

Поўны камплект дакументаў у адпаведнасці з пунктам 17 Часовага палажэння аб нябанкаўскіх фінансавых арганізацыях у Рэспубліцы Беларусь прадстаўляецца ў галоўныя ўпраўленні Нацыянальнага банка Беларусі па абласцях і г. Мінску. Адначасова копія звестак аб прафесіянальнай прыгоднасці кіраўніка і галоўнага бухгалтара нябанкаўскай фінансавай арганізацыі падаецца ў ліцэнзійна-прававы аддзел Нацыянальнага банка для праходжання атэстацыі.

Камерцыйныя банкі павінны спыніць аперацыі па разліковых і іншых рахунках гаспадарчых суб'ектаў, якія ажыццяўляюць неліцэнзійныя банкаўскія функцыі.

**Прэс-служба Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.**

**Пастанова**
**Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў**
**9 кастрычніка 1996 года**

**АБ УЧАСТКОВЫХ КАМІСІЯХ ПА РЭФЕРЭНДУМУ, УТВОРАНЫХ НА ТЭРЫТОРЫІ ВЫБАРЧЫХ АКРУГ ПА ВЫБАРАХ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, У ЯКІХ НА 24 ЛІСТАПАДА 1996 ГОДА НАЗНАЧАНЫ ДАДАТКОВЫЯ ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 18 верасня 1996 г. прыняў пастанову № 589-XIII, згодна з якой у абласцях, горадзе Мінску, раёнах і гарадах, дзе Саветы дэпутатаў у поўным саставе не выбраны і адпаведныя тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі прызначылі дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў на 24 лістапада 1996 года, паўнамоцтвы абласных, Мінскай гарадской, раённых, гарадскіх і ўчастковых камісій па рэферэндуму ажыццяўляюць адпаведныя абласныя, Мінская гарадская, раённыя, гарадскія і ўчастковыя камісіі па выбарах дэпутатаў.

Пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў ад 27 верасня 1996 года растлумачана, што ў выбарчых акругах па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якіх 24 лістапада 1996 года ў адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года № 578-XIII будзе адначасова з дадатковымі паўторнымі выбарамі дэпутатаў праводзіцца рэспубліканскі рэферэндум, паўнамоцтвы ўчастковых камісій па рэферэндуму ажыццяўляюць участковыя камісіі па выбарах дэпутатаў.

Аднак у Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай і Мінскай абласцях рашэннямі некаторых раённых, гарадскіх Саветаў дэпутатаў або іх прэзідыумаў у выбарчых акругах па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якіх на 24 лістапада 1996 года назначаны дадатковыя паўторныя выбары, утвораны ўчастковыя камісіі па рэферэндуму.

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў пастанаўляе:

Раённым, гарадскім Саветам дэпутатаў або іх прэзідыумам, якія ўтварылі ўчастковыя камісіі па рэферэндуму ў выбарчых акругах па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, адмяніць рашэнні аб утварэнні гэтых камісій, паколькі паўнамоцтвы ўчастковых камісій па рэферэндуму ў гэтых выбарчых акругах будуць ажыццяўляцца ўчастковымі камісіямі па выбарах дэпутатаў.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. ГАНЧАР.**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І. ЛІХАЧ.**

